POCZTA OPŁACONA RYCZAŁTEM.

АДЗІН № КАШТУЕ 35 ГР.

№ 4. | 5 | СЕРАДА, 4 г. САКАВІКА 1925 Г. Год II.

# АВАДЗЕНЬ

ДВАТЫДНЁВІК САТЫРЫ, ЖАРТАЎ І СЬМЕХУ.



—Чаму гэта, пане начальніку, беларусоў не прыймаюць на службу?

—Бо гэтыя „хамы" адзін за трох працуюць, дык ніводзін з нашых ня вытрымае рэдукцыі.

## КОЛЬКІ СЛОЎ ДА ГР. ЧЫТАЧОЎ.

Паважаныя Грамадзяне! Хочучы, што раз-то болей, узбагаціць, як самы воблік „Авадня, так і зьмест яго, з гэтага нумара уводзім рысункі-і шаржы.

Пры дапамозе гэткіх сіл, як Я. Драздовіч, Л. Дутка, Бусько, Я. Мал. А.В. ды інш., спадзяёмся стварыць цэлую галерэю крывічоўска-беларускіх дзеячоў і знамянітасьцяў.

Наш „АВАДЗЕНЬ" ужо неўступае нат заграніцчным выданьням, бо часта на выстаўцы у газэтчыкаў займае першае мейсца.

Дык гэртуйцеся, браты, каля сваей люстраванай і цікавай газэты!

Няхай жыве „АВАДЗЕНЬ" і яго чытачы ды падпішчыкі, асабліва-Г А Д А В Ы Я!

РЭДАКЦЫЯ.

### „АВАДЗЕНЬ" моцна гудзеў, як у вёску ён ляцеў...

Месяц Люты, але цёпла:
Рэкі ўсе цякуць,
На двары аж надта добра-
Птушкі скора прылятуць.
І ня дзіва гэта, птушкі,
Аджылі вось, нат, і мушкі:
„АВАДЗЕНЬ" моцна гудзеў,
Як у вёску ён ляцеў.

Вось, у хаце мы збіралісь
Многа надта насьмяялісь,
„АВАДНЯ" як мы чыталі-
Нат вачамі ня міргалі.
А каб болей прылятаў
Ды нас гэдак пацешаў,
Грошы у вёсцы мы збіраем
І падпіску пасылаем.

Паставы. П.Б.

### Як Моўша купіў цялё...



1. Глядзеў месяц
І сьмяяўся,
Па цялё як
Моўша краўся.

2. Ішоў нахэўна
Ні лянуўся,
Бо ўжо з цаной
Згаварыўся.

3. І бяз клопату,
Бяз мукі,
Браў цялё
Нарэшце ў рукі.



4. А купец
Каб не марудзіў,
Пагранічным
Грышка спудзіў.



5. А пасьля
Памог падняці,
А сам драла
Уцякаці.



6. Моўша ураз-жа
Як прыгнуўся,
Ажно дома
Апынуўся.



7.Сора з дзеткамі спаткала
Мяшок зараз развязала...



8.Аж сьвіньня,замест цяляці
Моўша гвалту стаў крычаці...

---

## ЗАГАДКІ.

1.Што расьцець без караня?
2.Дзяцёнак плача,чалавек пытаецца:
-Чаго плачаш?
-Ты мне бацька,а я табе ня сын...
3.Зьверху дзірка,знізу дзірка,збоку дзірка,а пасярод-агонь ды вада.
4.Хто бачыць таксама з пераду,як і ззаду?

б...а.

## УВАЖЛІВЫ СЫН.

Два сыны і бацька ішлі разам па лугу ды натрапілі на роў з вадой,даволі шырокі.Вось бацька разагнаўся і спрытна пераскочыў на другі бок.Малодшы сын дзівіцца і кажа:-Глядзі,наш бацька скача,як сабака!- а старэйшы на гэта:-Ціж на бацьку можна казаць гадак?!
Скача,-Няхай скача,чорт яго бяры!

---

**Пашырайце АВАДНЯ паміж сваіх бліжкіх і знаёмых.**



-Панок!..Пана сабака зьела мае 5 кілбас...
-Нічога,нічога бабка,-яму гэта ні зашкадзіць.

---

Аб курсах.

-Ці будуць курсы,аб якіх усё піша „Грамадзкі Голас?"
-А,як-жа,будуць...
-А калі?
-Гм...Аб гэтым запытайся у „Прасьветы."

Г..ч.

---

На судзе.

Судзьдзя.-Ці хцэце ,жэбы справа была умошона?
-?...
Судзьдзя.-Як-жа да вас мувіць?
-Па беларуску.
Судзьдзя.-Гм...Ну,хотіте,чтобы дѣло ваше было окончено?
-?..
Судзьдзя.-Вы не зрозумелі?..Як жа вам вытлумачыць!..
-Па нашаму,па беларуску, пане судзьдзя.

Г...ч.

---

У вэтэрынара.



-Ну,дык вось чалавеча,па усім сьвеце ходзіць мор на быдла...
-Каб хоць пана доктара Бог захаваў у здароўі!

---

Вушы у нагах.

-Ну,а як тамака ваш новы пан?Добры?
-Нічога сабе,толькі бяда, што мае ВУШЫ у нагах.
-Якім жаж,гэта,парадкам?
-А так:калі гаворучы да яго не пахілішся ажно да калень,дык нічагусенькі ня чуе.

|Са стар.друк.

---



## SKRYŬDZIŁA CHŁAPCA.

Raz idzie dziaŭčyna z pola
I piesni spiewaje
A zawuć jaje Antola.-
Dzieŭka nie durnaja.

Pozna končyła na poli
Šnur barapawaci,
Dyk kabyła idzie pawoli
Čuć moža stupaci.

Aż chłapiec z susiedniaj wioski
Jaje nahaniaje.
Paraŭniaŭšysia z joj troški
Zaraz zaŭčynaje.

-Oho! Niecbta pastaraŭzia
(Hianuŭšy wakoła),
-Z taboj chtoś pacaławaŭsia
Bo mieimi-ż wiasioła !

A dziaŭčyna čuć-čuć zudzie:
-Pan Haŭryła žartuje,-
Ciż to toj wiasiołym budzie,
Jak chto pacałuje?

-Ato woś, maja kabyła
Sumna paziraje...
Haławu, bačyš, spuściła
I čuć, čuć kłypaje...

—Chaj Antolačka sprabuje,
Sposab praŭdziwiejšy,
Kali tolki pacałuje
Chłapiec maładziejšy.

A chłapiec dumaŭ pawoli
Woś dumku takuju:
„Oj, siahońnia ja Antoli
U hubki pacałuju!"

A jana sabie ničoha
Taho nie zważaje
-Dobra, što ad maładoha
Hedak pamahaje !

I tak kaza, woś, Haŭryłu:
-Kali pan umieje-
Pacałuj maju kabyłu,
Mo pawiesialeeje!..

S. Krapiwa.






## ЯЗЭПАУ СЫН.

Язэпаў сын Язэпам зваўся,
Быў у бацькі ён адзін
І да бацькі надта удаўся,
Як з таго-жа дрэва клін.
У дзеўках рана ён кахаўся
І гарэлку нават піў.
На прыпеўках троху знаўся,
Іх да складу гаварыў.
Дый спрытнасьць у ім зьявілась
Тут сядзіць, а бачыць там
Дзе, калі і што зрабілась
Ён праўдзіва скажа вам.
.....................
Раз так матцы за абедам
Ляпнуў з прастаты:
Мама, помніш, як з суседам
Цалавалась ты?
Госьці змоўклі, але бацька
Пасварыў рукой,
А матка крычыць зьненацка:
-Ах ты, жаўнык, мой!
Бацька раз, на імяніны,
Шмат гасьцей сабраў.
Частаваў ды у тры гадзіны
У карты абыграў.
У момэнт той, як ён пусьціўся
Выйгрыш свой зьбіраць,
Раптам сын яго зьявіўся
Ды стаў рагатаць.
І крычыць: "Ура, матулька!
Ура, сьвята ўсім!
Усіх абчысьціў наш татулька,
Усіх гасьцей саўсім!
Я ўсе з ранку гэта бачыў
Ў шчэлку паглядаў,
Як ён карты хварбай значыў,
Як іх падкладаў!
Змоўклі усе-бацька трасецца
Бедны, сам ня свой...
Не сваім сьмехам сьмяецца:
-Ах ты, злодзей мой!"
"Усіх знаемых, сваявольна,
Колець балаўнік.
Адзін раз і я нявольна
Стаў прад ім ўтупік...
Стоючы блізка ля бацькі
Ён гасьцям сказаў:
-Піша песьні, гэты дзядзька,
Я-жа іх чытаў.
Ён сьмешнымі выстаўляе
Адных бедных мужыкоў
Быдта-бы у нас не хапае
Бязлепіц-паноў.
Вось, наш войт і з мэдалямі,
Важна так крычыць,
А у гміне за дзяламі
Пьян заўсёгды сьпіць.
Вот такога то спрыцяку
У вершах праші...,
Будзем шчыру мець падзяку
Хоць не барышы!"
............... С----Е.

§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§§

### „Cymus" sa starych drukau.

Žonka da muža: "ach ty, pjanica! Jak ty možaš tak mnoha harełki pić?

- Nie zabywaj, što ja paŭtara hady adnym małakom žyŭ.

- Kali-ž heta było? Što ty brešaš! ?

- A jak u kałysce byŭ.

---

Byŭ pry pamiaci...

Doktar: - Kali chwory byŭ jašče pry pamiaci?

Udawa: (płačučy). - Na hadzinu pierad šmierciaj.

Doktar: - A pa čym wiedajecie, što jon byŭ pry poŭnaj pamiaci?

Udawa: - Jon abłajaŭ was i wašaje lakarstwa.

---

Suddzia (da padsudnaha)- Čaho-ž ty pryjšoŭ siudy z kałom?

Padsudny. - Mnie adwakat moj zahadaŭ, kab ja zabraŭ u sud „sredstwy swajej abarony".

XXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXXX

PRYPAMINAJEM pawažanym čytačom, što para abnawić PIERADPŁATU dy PRYSYŁAĆ NA DRUHI KWARTAŁ HROŠY ! Tarapiciesia !!!




У В І Л Ь Н І .

Газэтчык |крычыць|:- Авадзень!..Авадзень!..Ава---дзень!..
Паненка |с перапуду|- А,Божа,скуль-жа ён узяўся?..Уцякаймо хутчэй , бо яшчэ на нос сядзе...

Л.М а л а н к а.

---

У канцэлярыі .

Начальнік , да канцэлярыі грышоўшы,круціць носам.
Панове,што тут у вас за с[illegible]д?
- з браку добрай табакі курым самасейку,пане начальнік!,
-адказвае падуладныя.

чэх.

С І М В О Л .

У школе , на лекцыі Закону Божага духоўны айцец пытаецца:
-Хто ведае,што абазначае слова „СІМВОЛ".
Усе маўчаць,а жыдок падымае руку...
-Ну-тхі,скажы.
-С І м- гэта так сабе,а В О Л -то гэта бік.

В О С Ь А Д Ч А Г О .

Як у цэркві стары дзяк
Ужо засыпляве,
Стара баба у кутку
Плача ды уздыхае.
Як угледзіў гэта дзед,
Да яе дабраўся
-„Чаго плачэце вы так?"
„Стару запытаўся.
-Ой,бо як-жа мне ня плакаць,
„Яму баба кажа
-Бо цяпер мне голас ваш
„Аж за сэрца вяжа!
„Так,калісь,мая каза
„На ляду крычала
„Як яе там зьвярына
„Бедну разьдзірала!"

Падкў Дык-Дзеля.

## У ДОКТАРА.



ДОКТАР.-Дзе вас гэдак данялі?..
ХВОРЫ. -А гэта яшчэ памятка нападу на „Грамадзянскае Сабраньне"..

Янка М.

## На станцыі.

Падарожны-жыдок просіць кандуктара разтлумачыць яму,што абазначаюць літэры на вагоне:К.Б.ж.д.
Той насьмешліва адказвае:
-Гэта абазначае-какая безтолковая жыдоўская дорога"..
-Не,-запярэчыў жыдок,-жыдоўская то і чытаць трэба па жыдоўску:
„-Дурэнь жыдае быць кандуктарам."

Знаёмы.

---

Пара ужо падумаць аб падпісцэ на другі квартал...

## НАША ПОЧТА.

Падпіску на „АВАДНЯ" маем: па 1зл.80гр.ад гр.гр.Левіна,Ковальчыка,Кляўсуця,Кучука,Зыбайло, Бохана,Крыжаноўскага,Фурса,Вінцукевіча,Конона П.,Казлоўскага. Петрусэвіча,Шчэцька,Падгайскага, Яроцэвіча,Валентовіча,Шэвчыка, Паўловіча,Говора;ад Ілюкевіча1зл. ад Беленко 1зл.50гр.Па 2зл.прыслалі Бовтрэль,Корсак,Пагуда,Кабута,Плаўскі,Грыневіч-кампанытар, Бабровіч,Бараноўскі,Калюцік.Па 3 зл.=Дожын,Войцехоўскі,Кулак;па 3 зл.50гр.ад гр.Абрамовіча,па 3зл. 60гр.прыслалі гр.гр.Шырко ... 7 зл.ад П.Пугоўкі.

Усім падпішчыкам „АВАДЗЕНЬ" пасылаецца акуратна.

Атрымана 7зл.50 гр.АХВЯРЫ ад гр.Гапановіча-рэдакцыя шчыра дзякуе.

Гр.МАТЭШУКУ-Вам „Авадня" высылаем ад №1 акуратна,пытайцеся на почце.

Гр.гр.Захару Борка,Журкевічу, Кейзіку,для Б.Ш:пасылаем пробныя №№ і чэкаем падпіскі.

Цяпер,на астатку,даем агульны адказ тым нязлічоным асобам, якія просяць дарма ім прысылаць газэтку:-Занадта,браточкі,Вы прывыклі да дармаўшчынкі.Пры усей нашай ахвоце цешыць вас добрай, люстраванай газэткай-„АВАДНЕМ" ня хочэм псуваць Ваш характар...

Толькі пробныя нумары высылаюцца дарма.

Я.Быліне,Знаемаму,гр.з Кралеўшчыны,Бусьцэ і Дутцы за прысланыя творы і рысункі дзякуем, стараемся у пэласьці карыстаць.

РЭДАКЦЫЯ.

---

Разгадкі:1.Чалавек.2.Бо дачка. 3.Самавар.4.Сьляпы.

---

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі-Wilno Завальна 7,пры кнігарні.

ПАДПІСКА:на 3 м.1зл.80гр.,на паўгода-3зл.50гр.,на год-7зл.усяго.
За граніцуна год-тры даляры.

Рэдактар-Выдавец А.Васілеўскі.

Літ.Маца,вуліца Домброўскага 3,у ВІЛЬНІ.